# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1549) ГОД XXXI БЕЛАСТОК, 19 СТУДЗЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## НАШЫ СПЕВАКІ

Эмілля Кедыш жыве з мужам на хутары, непадалёк Ахрымаўцаў, за грамадкай тых бяроз, якім вецер-весялун усё чэша і не начэшацца павеўныя косы. З якога акна не выглянуць — усюды палі ды пералогі, а на пагорках кучаравяцца маладыя сасьнякі. Ціха тут і ўтульна, але неяк з кожнага кутка тхне самотнасцю.

Абое Кедышы ўжо на пенсіі. Вырасцілі, вывучылі ды пусцілі ў свет дзяцей: Казімір працуе аграномам у Гайнаўцы, Ян жыве і працуе крыху бліжэй, у Беластоку; Станіслава яшчэ бліжэй — на працы ў прадшколлі ў Чорнай Беластоцкай, а Марыя амаль што зусім дома, бо выйшла на гаспадарку ў суседнюю вёску Цімане. І да яе найчасцей прыпіраюцца старыя: яна з мужам пераняла іхнюю гаспадарку і дбае пра яе, як пра сваю, яна і найбольш даглядае бацькоў. Хоць у яе і свая сям'я і вельмі многа грамадскай працы, бо яна, Марыя Федаровіч, вядомая не толькі ў Кузніцкай гміне як дзяячка і радная Ваяводскай рады нарадовай. Так. маюць кім ганарыцца Кедышы. Таму, мабыць, у гаспадыні хутара за Ахрымаўцамі часта з вуснаў чуваць беларускія народныя песні. Іх яна пераняла ад спявачак з-пад Індуры, дзе нарадзілася і прайшло яе дзявоцтва, а таксама ад старэйшых сялянак з вёскі Ахрымаўцаў, у якой жыве ўжо каля 50 год.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



## ЖАНОЧАЯ ДОЛЯ

Сваё апошняе ў мінулым годзе пленарнае пасяджэнне ваяводскі камітэт Аб'яднанага стронніцтва людовага прысвяціў разгляду **ролі і месца жанчын у грамадска-гаспадарчым і палітычным жыцці вёскі.**

Я ўважна прыслухоўваўся і да даклада, і да ўдзельнікаў спрэчак, бо думаю, што варта ведаць, як дзеячы сялянскай партыі ацэньваюць долю і нядолю вясковай жанчыны на Беласточчыне пад канец XX стагоддзя.

Найперш тады неабходна зразумець, што становішча жанчыны ў вёсцы з'яўляецца такім, якім ёсць становішча вёскі ў краіне. Вёска мае пракарміць сваіх суайчыннікаў, паляпшаючы пры гэтым свой сацыяльны ўзровень. І ў апошніх гадах маглі мы наглядаць выдатныя і паслядоўныя намаганні ў гэтым напрамку. XI супольнае пленарнае пасяджэнне цэнтральных камітэтаў ПАРП і ЗСЛ апрацавала праграму развіцця спажывецкай гаспадаркі і сельскагаспадарчай вытворчасці, каб як мага хутчэй дабіцца нам харчовай самастойнасці краіны. Гэта было звыш двух гадоў таму назад. Паслядоўна пасля гэтага пленума найперш Рада Міністраў, а затым і ваяводскія рады апрацавалі свае праграмы ажыццяўлення прынятых рашэнняў. У выніку гэтага ў Беластоцкім ваяводстве аж 40 працэнтаў усіх капіталаўкладанняў прызначаецца зараз на патрэбы вёскі.

Бяда, аднак, у тым, што людзі плануюць прыгожыя праграмы, а жыццё плыве сваім шляхам. Дабіліся вось нашы сяляне значнага поспеху ў механізацыі асноўных палявых работ. Колькасць трактараў, скажам, на сто гектараў угоддзяў, набліжае ўжо Польшчу да сярэдніх паказчыкаў у еўрапейскіх краінах. Але ў галінах, у якіх па вёсках у асноўным займаюцца жанчыны, мы, на жаль, далёка яшчэ адстаем ад перадавых стандартаў. Маю тут на ўвазе перш за ўсё такія штодзённыя заняткі, як нарыхтоўка кармоў для жывёлы, у першую чаргу для свіней і курэй, даенне кароў, апека над малымі дзецьмі, мыццё вопраткі і асабістай бялізны. Ва ўсіх гэтых справах вясковая жанчына ўсё яшчэ можа спадзявацца амаль выключна на ўласныя рукі і ногі, бо ваду трэба вёдрамі цягаць з калодзежа, а пасля гэтымі ж вёдрамі запраўляць корм у карыты і жолабы, уручную даіць малако і зліваць яго ў конаўкі, каб паспець на скупачны пункт.

(Працяг на стар. 5)

## IV ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Чарговае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ адбылося 22 снежня 1985 года. Галоўнымі яго тэмамі былі: „Аналіз дзейнасці БГКТ у 1984-85 гадах“ і „Праграма святкавання XXX гадавіны БГКТ і „Нівы“.

У аналітычным дакладзе, прачытаным сакратаром ГП Віталіем Лубам, былі прадстаўлены ўсе тыя найважнейшыя факты і справы, якія знаменавалі дзейнасць нашай арганізацыі ў адзначаным перыядзе часу.

Галоўнай падзеяй у жыцці таварыства апошніх двух гадоў быў X з'езд БГКТ, які адбыўся 6 мая 1984 года. Як вядома з ранейшых публікацый, з'езд увёў змены ў арганізацыйную структуру таварыства, даў магчымасць ствараць аддзелы БГКТ там, дзе існуе не менш як тры гурткі, у якіх разам налічваецца не менш як 50 членаў.

Кампанія стварэння аддзелаў да канца яшчэ не даведзена (яшчэ не створан Беластоцкі раённы аддзел), але ўжо цяпер БГКТ налічвае 194 гурткі, якія аб'ядноўваюць 5500 членаў Найбольш іх на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Па-за яго межамі існуе 4 гурткі ў Варшаве, па адным — у Гданьску, Кашаліне і Аўгустове. На сённяшні дзень працуе 15 аддзелаў: 14 — на Беласточчыне і адзін у Варшаве. Гмінны радыус дзеяння маюць аддзелы ў Орлі, Гайнаўцы, Нарве, Нараўцы, Чаромсе, Кляшчэлях і Чыжах. Тры аддзелы ахопліваюць сваёй дзейнасцю гарады: Беласток, Варшаву і Гайнаўку. Чатыры аддзелы раённыя — гэта ў Бельску Падляшскім, Сямяцічах, Саколцы і Дуброве Беластоцкай.

„Аддзелы маюць яшчэ малы вопыт, — гаворыцца ў дакладзе, — але ўжо можна сказаць, што будуць яны добра актывізаваць працу гурткоў у вясковым асяроддзі і дапамагаць ім у выкананні з'ездаўскіх пастаноў“.

Пры Галоўным праўленні існуюць наступныя секцыі: асветная, культурная, гістарычная, этнаграфічная, выдавецкая і літаратурная — „Белавежа“. Не ўдалося яшчэ стварыць маладзёжнай (а дакладней, студэнцкай секцыі), хаця былі спробы арганізаваць яе.

— Трэба самакрытычна сказаць аб тым, — сцвердзіў дакладчык, — што мы не выпрацавалі формы працы з моладдзю. Шырокае ўключэнне яе ў нашу дзейнасць будзе адным з важнейшых заданняў у працы ГП у 1986 годзе.

Культурна-асветная праца БГКТ вядзецца ў больш як 130 клубах, святліцах і гмінных цэнтрах культуры ў цесным супрацоўніцтве з мясцовымі ўстановамі да спраў культуры.

Пад патранатам БГКТ працуюць клубы ў Гайнаўцы, Бельску Падляшскім і Саколцы. У

(Працяг на стар. 4)

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

Мы, з божай ласкі, студэнты беларускай нацыянальнасці, перадаем новую старонку агульнавядомай газеты ў рукі чытачоў Беластоцкага краю і ўсяе Польшчы. Амін.

Выпала на маю долю напісаць некалькі слоў уводзін да, спадзяюся, новага роду публіцыстыкі, літаратурнай дзейнасці і мастацтва, у якім будуць удзельнічаць студэнты. Думаю, што ў нашым грамадстве ўжо нешта вядома пра студэнтаў, таму я і не буду прысвячаць гэтай тэме больш увагі, чым трэба. Перш за ўсё папрабую праясніць адну важную дэфініцыю, якая можа выклікаць найбольш спрэчных поглядаў і розналалосся. Зразумела, што дэфініцыяй гэтай з'яўляецца „студэнт беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы". Тэрмін сам па сабе заблытаны не таму, што дагэтуль у нас чагосьці такога не было, а проста таму, што ён яшчэ даволі малады. Заўсёды ў такіх выпадках абавязкова трэба выказаць аднаЛітую інтэрпрэтацыю, каб усе ведалі, у чым справа. На пачатак асноўнае паняцце:

Студэнт — гэта чалавек, які па сутнасці нічога не робіць і гаворыць, што яму цяжка; са студэнтам настолькі простая справа, што ён мае свой білет, які канстатуе ягоны статус; безумоўна, таму студэнта і лёгка пазнаць сярод іншых. Далей пабачым, што не заўсёды і не з усім так бывае.

Другім словам па ступені цяжкасці з'яўляецца „меншасць", але каб не быць вельмі дробязным, я вазьму „меншасць" разам са словам „нацыянальны". Менавіта, у такім толькі кантэксце будзе далей ужывацца слова „меншасць".

Нацыянальная меншасць — абстрактны тэрмін, які можа абазначаць штосьці, чаго ў грамадстве найчасцей бывае ледзь адзін працэнт, а таксама можа абазначаць штосьці цалкам не існуючае.

Беларускі (або беларус) — найбольш падманлівае слова для інтэрпрэтацыі (пры ягоным сучасным значэнні ў паўночна-ўсходняй Польшчы). Беларус, у адрозненне ад студэнта, не можа паказаць ніякіх дакументаў, якія сцвярджалі б яго нацыянальнасць, таму і нялёгка пазнаць беларуса на ўмовах сучаснага грамадскага жыцця. „Беларускі" з'яўляецца даволі альтэрнатыўным прыметнікам, у крайніх выпадках можа абазначаць паляка або і ўкраінца. Таму ў гэтым месцы звяртаюся да інтуіцыі і добрага густу чытачоў, а калі ўжо адно і другое падвядзе, тады найлепш параіцца з „Сэрцайкам" або „Астронам".

Другая справа гэта ўсё, што датычыць новага роду публіцыстыкі і літаратурнай творчасці. Калі глянем на дасягненні нашых пісьменнікаў, бачым, што ў большасці літаратурная дзейнасць астаецца сферай пераведзеных на пенсію партызан. Панове, не забывайцеся, што жывем у васьмідзесятыя гады. Сучасная музыка, радыё, тэлевізія, усе праявы поп-культуры аж крычаць, якім чынам займацца любоўю. А кінафільмы аж абліваюцца эратызмам і разбэшчанасцю. Ці ж трэба яшчэ казаць, што ў беларусамоўнай літаратуры Беласточчыны нават сурагат гэтакай тэмы не існуе? Аддаю ў гэтым месцы гонар раней спомненым „Сэрцайку" і „Астрону", якія дагэтуль аказаліся найбольш прагрэсіўнымі адносна інтымнай галіны чалавечага быту. Шкада, што толькі ў снах. Каб падкрэсліць і адначасова падсумаваць мае апошнія разважанні, падаю яшчэ адну аксіёму: літаратурная дзейнасць — род чалавечай дзейнасці, які мае на ўвазе павышэнне духоўнага і матэрыяльнага ўзроўню жыцця грамадства.

Заўвага: вывад са злучэння „і".

Літаратурная дзейнасць студэнта беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы — місіянерская дзейнасць, якая мае на ўвазе ўтрымліванне на аднолькавым узроўні матэрыяльнага быту да чарговай стыпендыі.

Нягледзячы на тое, што я ўжо трошкі сказаў пра студэнтаў і іх дзейнасць, ды і так ужо нешта было чуваць аб іх, беларускае асяроддзе будзе доўгі час яшчэ арыентальным матывам на фоне туземскага фальклору. Набліжэнню гэтых матываў мае служыць студэнцкая старонка „Прысутнасць", а часткова і мой артыкул. Многія чытачы могуць звярнуць увагу, што акрэсленне літаратурнай дзейнасці студэнта не супадае з мэтай „Прысутнасці". Гэта памылка. Усе пабачаць, што гэта два аспекты адной і той самай справы. І апошняя фармальная заўвага. „Аспект" з'яўляецца універсальнай адзінкай меры фізічных магчымасцей адносна выпіўкі спіртных напіткаў: пакуль што вядомая толькі яе эмпірычна прыблізная ацэнка. Дзякую ўсім, хто прачытаў мае ўводзіны да апошняга радка і павесіў гэтую старонку ў прыбіральні. Чытайце чарговыя! Будзьце прысутнымі!

**Аляксандр Максымюк**




### НОВЫ ГОД

**Новы Год, Новы Год!**
**Куды валіць той народ?**
**Той народ, той народ,**
**Валіць ён на Новы Год!**

**Два аркестры і буфет**
**Ці прывабяць нам камплект?**
**Не хвалюйцесь, ёсць камплект!**
**Ёсць аркестры і буфет!**

**Тут сабраліся свае**
**Дзеля мэты аднае:**
**Ля бутэлькі аднае**
**Згуртаваны ўсе свае!**

**А ў поўнач — час нуль-нуль —**
**На сябе ўсе гуль-гуль-гуль,**
**І з бутэлек — буль-буль-буль —**
**Вып'юць ўсе у час нуль-нуль.**

**Ох народ! Ох народ!**
**Ён вітае Новы Год!**
**А праз год на Новы Год**
**Будзе зноў тут свой народ!**

**Янка Здольнік**

## УЯЎЛЕННІ БЕЛАРУСАЎ АБ НАРАДЖЭННІ СВЕТУ

Праходзяць дні, гады, стагоддзі. Памяць аб мінулым усё больш згладжваецца. Адыходзяць старэнькія бабулькі, якія нам у дзяцінстве расказвалі цудоўныя казкі, фантастычныя гісторыі, дзе выступалі добрыя і злыя сілы. Было нешта своеасаблівае ў тых пераказах, бо нават сёння ў маёй памяці жывуць гэтыя вобразы. Толькі цяпер я ўявіў сабе, што ўсё гэта з'яўляецца духоўнай спадчынай беларускага народа.

Блізкасць прыроды і рэлігійнасць нашых продкаў уплылі на тое, што яны пачалі ствараць міфы. Няважны тут размер часу, таму што слова — жэст міфу мае моц новай крэацыі рэчаіснасці. Прыглядаючыся сучасным хрысціянскім абрадам, лёгка можна заўважыць многа супольнага з мінулай верай нашых язычаскіх продкаў. Найлепш відаць гэта ў народнай культуры, у глыб якой хрысціянства пранікнуць не здолела, а толькі накінула ёй павярхоўную форму сваёй абраднасці. Незалежна ад біблейнай аповесці пра нараджэнне свету, адзін з народных беларускіх міфаў тлумачыць гэта так:

„На пачатку была вада. Бог сказаў д'яблу апусціцца ў ваду і прынясці жменю зямлі. Д'ябал спусціўся, набраў жменю зямлі, але не ўсю аддаў Богу, частку схаваў у сваёй мордзе. Бог узяў у рукі зямлю, паблагаславіў яе і кінуў на ваду — зямля пачала расшырацца і пакрываць ваду гладкім пластом. Адначасова пачала расці зямля, якую д'ябал трымаў у мордзе. Морда пачала яму раздзірацца. Д'ябал, выючы з болю, круціўся і пляваў зямлёй. Доўга ён качаўся ды ўсё выплёўваў. Таму паверхня зямлі гарыстая, а ў некаторых месцах атрутая слінай д'ябла. З гэтай прычыны, калі пан Бог сеяў пшаніцу, жыта, ячмень, у некаторых месцах вырас пырнік, лебяда ды другое пустазелле. Потым Бог стаў ствараць хатнюю жывёлу: коней, кароў, авечак. Аднак некаторыя з іх наеліся пустазелля і замяніліся ў шкодную звярыну.

Тады Бог выляпіў чалавека і ажывіў яго. Д'ябал гэта бачыў і, калі чалавек заснуў, пасяліў у ім злы дух. З гэтай пары ў чалавеку многа злога".

Падобныя погляды на нараджэнне свету выступаюць таксама і ў суседніх культурах. Асноўны матыў такога міфу — падобны, але дэталі характэрны кожнаму народу.

Ва ўсіх народных пераказах ідзе барацьба дабра са злом. Гэта рэха адвечнага паядынку Бога з д'яблам. У выніку барацьбы д'ябал сядзіць цяпер скуты ланцугамі. Людскія грахі і ліхадзействы пераядаюць ланцугі, як іржа. Аднак перад святам Вялікай ночы, калі ўжо мае пусціць апошняе звяно, ланцуг за справай божай сілы аднаўляецца.

Цяпер на зямлі выступаюць нячыстыя сілы ў постацях: змей, вужоў, гарпій, смокаў. Выступае таксама вельмі цікавая постаць жмія. Хто гэта такі — наступным разам. У будучыні таксама другія цікавыя абрады, у якіх немалую ролю будзе адыгрываць эратычны элемент...

**Яўген Вапа**

**Старонку падрыхтавалі: Яўген Вапа, Аляксандр Максымюк і Юрка Ляшчынскі. Аўтарскія ганарары на музей.**




## ВІНАВАТЫ МУЖЧЫНЫ

Фёдар Хлябіч у сваім артыкуле „Эгаісты? П'яніцы?“ („Ніва“ 6 кастрычніка) не згаджаецца са мною. Яму здаецца, што п'янства мужчын залежыць ад жанчын. Як трэба адносіцца жанчыне да мужчыны, каб ён не піў? У якасці прыкладу падае ён адносіны паміж ім і яго жонкай. І што гэтым Ф. Хлябіч хоча даказаць? А вось што. Паказвае, якую талерантную і працавітую мае жонку і як сам часам патрапіць загуляць. Бедны, ён часта стаіць ракам каля ложка і не паспее жывёлу накарміць, бо за яго жонка ўсё зробіць. Ды, зрэшты, не вельмі работай і пераймаецца.

Гляньма шырэй на нашы сямейныя, штодзённыя справы. Рэдка знойдзецца такі мужчына, што ва ўсім паможа жонцы. Вельмі часта бывае так, што жанчына, напрацаваўшыся на фабрыцы, стрымгалоў ляціць дадому. Па дарозе забірае з ясляў ці прадшколля дзяцей і купляе ўсё, калі раніцай не паспела. Дома пачынае варыць абед, прыбіраць кватэру, а яшчэ мусіць і памыць сёе-тое. Мужчына або прыйдзе дадому позна, або, калі і прыйдзе, то малая карысць з яго, бо сабою заняты. То на вярсальцы ляжыць і газету чытае, то тэлевізар глядзіць. Вось як казаў аб сваім сыне адзін жыхар Гайнаўкі. „У нас разбору паміж жаночай і мужчынскай работай не было. Мыць, прасаваць, а нават кватэру прыбіраць я заўсёды памагаў жонцы. Мой сын не ўдаўся ў мяне. Калі жонка нешта робіць, ён сабе спакойна на вярсальцы ляжыць. Часта можа п'яны прыйсці і скандаліць, што непарадак у хаце. Урэшце я пагаварыў з ім па-мужчынску. Ад таго часу мой сын змяніўся. Перастаў піць і стаў ва ўсім памагаць жонцы“.

Добра, што бацька змог пераканаць яго, а што каб не?

У горадзе то яшчэ паўбяды з такім мужчынам. Горш на вёсцы. Тут не толькі трэба заняцца дзецьмі, памыць і наварыць, але яшчэ і жывёлу дагледзець. Летам — на лузе сена паварочаць, ды і другая работа ёсць.

Вось, напрыклад, ёсць такі ўжо старэйшы мужчына з Раманава. „Слаўны“ на цэлае ваяводства. Мо і Ф. Хлябіч з ім сустракаўся? Ён жа патрапіць у кожную пару года хадзіць ад вёскі да вёскі, а там ад хаты да хаты і „прадаваць“ асыпку. Жонка, працуе, як вол, на гаспадарцы, а ён у хаце толькі госць. У вёсках, дзе яго не ведаюць, грошы даюць і нярэдка і паўлітроўку паставяць, а яму таго і трэба. Некалькі гадоў назад завітаў у маю вёску і, абыходзячы ўсе хаты, зайшоў і ў нашу. Помню, я са школы прыехала і якраз абедала, і тады ўвайшоў у хату ён. Быў такі п'яны, што ледзь трымаўся на нагах і ледзь языком варочаў. У хаце была толькі я. Убачыўшы п'янага незнаёмага, я хутка запытала, чаго яму трэба. Ён адказаў, што „заўтра або яшчэ і

(Працяг на стар. 7)



На адкрыцці школы ў Дубяжыне. Выступае калектыў са школы № 3 у Бельску „Нашы дзеці“.
Фота Я. Чэрнякевіч.

ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## ЛЁС ВУЧНЯ ГМІННАЙ ШКОЛЫ

Наведаў я вучня, які жыве ў 15 кіламетрах ад гміннай школы. Паглядзеў і задумаўся над лёсам і працай такога вучня. Часта чуеш ад настаўнікаў нараканне, што вучні нічога не робяць, не вучацца, гультайнічаюць. А вось што я вам раскажу пра гэтага вучня. У пяць гадзін раніцы мама будзіць сына. Ён неахвотна, пацягваючыся, устае з ложка. Неяк памыўшыся і апрануўшыся, бярэ сумку і бяжыць на зборны пункт. Мама нарыхтавала снеданне, але так рана не хочацца есці. Заглянуў сынок у сумку — канапка з каўбаскай ёсць, ну і добра. Не была б гэта мама.

Зборны пункт знаходзіцца каля будынка даўнейшай вясковай школы. Бяжыць хлопчык, спяшаецца. А думкі розныя. Першая (позірк на школу): паспаў бы яшчэ з дзве гадзінкі, каб тут вучыўся. Другая: які будзе настрой у шафёра, ці дазволіць здрамнуць?

Вось і прыехаў школьны аўтобус. Шафёр сёння востры, драмаць нельга, але сон просіцца, лезе, тут хлопцы далі пад бок, каб не спаў. Так даехаў наш хлопчык у гмінную школу. Каб крыху спазніўся на зборны пункт, дык і застаўся б, бо шафёр трымае дысцыпліну і не пачакае.

У школе пераймае дзяцей кіраўнік святліцы. Нікому не дазваляе выйсці. Абавязкова дзеці сядзяць і стаяць у святліцы. Калі ўжо пані дазволіць, ідуць пад дзверы сваіх школьных будынкаў. І тут новая перашкода. На двары дождж, а непадкупны суровы „возьны“ сядзіць з пахіленай галавой на ганачку і спакойна спаглядае на гадзіннік. Яшчэ дзве мінуты. Мокнуць дзеці пад дзвярыма, бо такі загад „возьнага“. Урэшце скрыпіць ключ, дзверы адкрываюцца. Але на гэтым не канчаецца. Калідорчык адкрылі, але залы закрыты, пакуль не з'явяцца настаўнікі.

І так, пасля трох пакутлівых гадзін наш хлопчык трапляе на ўрок. На перапынку можна пагуляць. Можна яшчэ з'есці сухую булачку з малаком ці кавай. Але хлопчык з радасцю выцягвае маміну канапку.

У $14^{30}$ дзеці ад'язджаюць дахаты. На месцы яны ў $15^{30}$. Хочацца адпачыць. Пагуляць ахвота таксама. Няма часу. Зімою аднак ужо і цямнее. І пярынка марыцца. Не, трэба брацца за ўрокі на заўтра.

У якім-небудзь гуртку зацікаўлення не можа хлопец быць, бо ж аўтобус ад'язджае раней. Вось табе і гмінная школа!

Мама думае, пытае, з чаго ён там у школе карыстаецца. Траціць шмат часу. А такіх жа самых настаўнікаў меў тут, у вёсцы. З іхняй школы выйшла многа магістраў, інжынераў, а цяпер — пасылай дзіця за 15 кіламетраў на цэлы дзень. Калі ж ім вучыцца? Пачынаецца плач.

А настаўнікі наракаюць: дзеці не вучацца. Вось табе і тая лепшая гмінная школа!

**Асот**

# IV ПЛЕНУМ ГП БГКТ

(Працяг са стар. 1)

даны момант праяўляюць сваю дзейнасць больш як 30 аматарскіх калектываў, сярод іх тры тэатральныя, а ўсе астатнія — харавыя. У апошнім часе ў Беластоку паўстаў маладзёжны хор, у Сынкоўцах — мужчынскі хор, а ў Арэшкаве рэактываваўся драмгурток.

Віталі Луба падкрэсліў значэнне конкурсаў: песенных, тэатральных і дэкламатарскіх для дарослых і школьнай моладзі, якія арганізоўвае ГП, а таксама народных беларускіх фэстынаў. Затым гаварыў ён аб цяжкасцях: недахоп кваліфікаваных інструктарскіх кадраў у галіне беларускай вакалістыкі і харэаграфіі, недахоп цікавага беларускага рэпертуару, беларускіх народных убораў для мастацкіх калектываў, транспарту для давожвання іх на канцэрты. А ўсё гэта звязана з недахопам у ГП фінансаў на вядзенне шырокай статутовай дзейнасці.

Важнай дзялянкай у культурным дзеянні з'ўляецца літаратурны рух. Зараз у літаб'яднанні „Белавежа“ (існуе ўжо 26 год) налічваецца 28 літаратараў. З іх 7 чалавек гэта члены або кандыдаты ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў.

У гадах 1984-85 апрача Беларускага календара выдадзены два літаратурныя зборнікі. Друкуецца ўжо кніжка Васіля Петручука „Пожня“, 2 кніжкі ў падрыхтоўцы да друку, 5 кніжак чакае рэцэнзіі Міністэрства ўнутраных спраў.

Выдавецкія магчымасці вельмі абмежаваны, ГП БГКТ зусім не мае грошай на ганарары і аўтарскія сустрэчы.

Далей сакратар ГП гаварыў аб тым, што ў 1984 годзе, дзякуючы намаганням дзеячоў БГКТ, а таксама партыйных і грамадскіх дзеячоў Гайнаўкі створаны грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Камітэт зарэгістраваны як самастойнае таварыства. Аднак БГКТ аказвае яму шырокую дапамогу ў ажыццяўленні гэтай высакароднай ідэі. Актывісты БГКТ папулярызуюць ідэю пабудовы музея, праводзяць збор грашовых сродкаў і экспанатаў.

У дакладзе шмат месца прысвечана было і навучанню беларускай мовы. У бягучым школьным годзе ў 54 школах 3685 дзяцей вывучае гэты прадмет. Рэактывавана навучанне роднай мовы ў Астраўку, Піліках і Чаромсе. Што датычыць падручнікаў, дык не хапае іх для 3 і 4 класаў. І яшчэ адна справа. У сувязі з тым, што шмат настаўнікаў беларускай мовы пачало адыходзіць на пенсію і колькасць іх з кожным годам будзе павялічвацца, прапануецца ўвесці спомнены прадмет у Настаўніцкую студыю ў Беластоку. Цяпер гэта Настаўніцкая студыя прадшкольнага выхавання. Прапануецца таксама пабудова школьных будынкаў для беларускага ліцэя ў Гайнаўцы і для падставовых школ (апрача Орлі і Нарвы) у Нараўцы, Кляшчэ-

 

(Працяг са стар. 5)

# IV ПЛЕНУМ ГП БГКТ

і яго мастацкі кіраўнік, — працягвала Анна Іванюк. — Нашы харысты хацелі б мець народныя касцюмы, хацелі б з выступленнямі прыязджаць на Беласточчыну, а мы ўсе, БГКТоўцы, хацелі б таксама, каб інструктар спеву атрымоўваў хаця б сімвалічную заплату. Існуем мы ўжо ў БГКТ 18 год, але ў нашым клубе не так, як у іншых, у нас бедна, нават радыёпрыёмніка няма, і таму просім Прэзідыум ГП БГКТ зацікавіцца нашымі праблемамі і дапамагчы нам.

Прадстаўнік Гданьскага гуртка закранула таксама справы, важныя для ўсяго таварыства, прапанавала яна рэактываваць „Лявоніху“ і „Бэтэску“, вярнуць з Цеханоўца экспанаты з нашага былога этнаграфічнага музея ў Белавежы.

Утварэнне штатнага эстраднага калектыву накшталт „Лявоніхі“ пастуляваў таксама Янка Крупа.

— Трэба нам менш наракаць, а больш рабіць, — даказваў ён, — трэба вярнуцца да некаторых старых формаў працы, якія здалі ў мінулым экзамен. Штатная эстрадная група нам неабходная ў папулярызацыі беларускага слова, песні і музыкі.

— Добрай формай папулярызацыі беларускіх песень з'яўляюцца магнітафонныя запісы. І трэба запісваць усе фінальныя выступленні з конкурсаў беларускай песні, — дамагалася Галена Тапалянская.

Сакрат Яновіч закрануў справу аховы культурнай спадчыны адыходзячы ад нас назаўсёды людзей. Прывёў ён у прыклад памёршага нядаўна Юрку Геніюша, які мае значныя літаратурныя дасягненні.

Мікалай Бушко прапанаваў больш увагі прысвячаць справам моладзі, а Хведар Галёнка абгрунтоўваў неабходнасць раз у год на пленумах абмяркоўваць нацыянальную свядомасць нашых беларусаў.

У дыскусіі выступілі таксама Мікалай Нікалаюк, Віктар Швед, Ніна Цыванюк і Міхась Дулько.

Намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня пазнаёміў удзельнікаў пленума з тэматыкай пасяджэнняў Прэзідыума ГП ад папярэдняга III пленума.

Членам ГП была таксама прадстаўлена тэматыка пасяджэнняў Прэзідыума і ГП БГКТ на 1986 год.

Пленум закончыўся прыняццём праграмы святкавання XXX гадавіны БГКТ і „Нівы“, а таксама прыняццём пастаноў пленума, якія былі прачытаны старшынёй камісіі прапаноў Аляксандрам Іванюком.

**Міхась Хмялеўскі**



Вёска Нурэц у Боцькаўскай гміне. Фота Юркі Трачука.

# НАВАГОДНІЯ ПАДАРУНКІ

Ваяводская рада нарадовая ў Беластоку на сваім апошнім у 1985 годзе пленарным пасяджэнні, якое адбылося 19 снежня прыняло пастанову ў справе размеркавання астаўшайся надвышкі з ваяводскага бюджэту за 1984 год. З агульнай сумы ў амаль 100 мільёнаў злотых (дакладна, 95 мільёнаў 496 тысяч зл.) атрымалі:

— горад Бельск Падляшскі — на капітальны рамонт камунальнага абсталявання — 1 мільён 100 тысяч зл.;

— горад і гміна ў Чорнай Беластоцкай, таксама на капітальны рамонт абсталявання камунальнай гаспадаркі і на папаўненне цякучых выдаткаў у гэтай галіне — 2 мільёны 200 тысяч зл.;

— горад і гміна Драгічын — на капітальны рамонт будынкаў асветы і выхавання — паўтара мільёна злотых;

— горад і гміна Сямяцічы — на капітальны рамонт абсталявання камунальнай гаспадаркі, — паўтара мільёна зл.;

— горад і гміна ў Саколцы — на абсталяванне новага прадшколля — 2 мільёны зл.;

— гміна ў Белавежы — на капітальны рамонт прадшколля — 1 мільён злотых;

— гміна ў Боцьках — на рамонт камунальнага абсталявання — 800 тысяч зл.;

— гміна Чаромха — на капітальны рамонт камунальнага абсталявання — паўтара мільёна злотых;

— гміна Дубічы Царкоўныя — на аплату за тэлефанізацыю салэцкіх вёсак — 1 мільён зл.;

— гміна Гарадок — на патрэбы камунальнай гаспадаркі — 700 тысяч зл.;

— гміна Гайнаўка — таксама на патрэбы камунальнай гаспадаркі — 1 мільён 400 тысяч зл.;

— гміна Юхновец — як і ў Гайнаўцы, на камунальную гаспадарку — 700 тысяч зл.

На патрэбы камунальнай гаспадаркі грошы яшчэ атрымалі гміны: Нурэц-станцыя і Мельнік — па 900 тысяч зл., а Нараўка — 500 тысяч зл. З тым, што Нараўчанскай гміне дакінулі яшчэ 500 тысяч зл. на аплату надзённых патрэб у галіне асветы і выхавання і 300 тысяч зл. на дафінансаванне адміністрацыі. Паўтара мільёна на капітальны рамонт школьных будынкаў атрымала гміна ў Орлі.

Усе гэтыя і іншыя, тут не пералічаныя, сумы з ваяводскай бюджэтнай надвышкі можна лічыць навагоднімі падарункамі для паасобных гмін. Цікава, што сярод абдзеленых падарункамі няма гмін: Заблудаў (які ж і горадам лічыцца!), Міхалова, Дуброва Беластоцкая, Чыжы, Мілейчыцы і Нараў. Ці яны не мелі незвычайна пільных патрэб, ці патрапілі так самі гаспадарыць, што на ўсё ім хапіла? **(вр)**




# СТАВІШЧУКІ

Голас Дзмітрыя Макарава быў рашучы, і Грышка Каравай зразумеў, што ў яго зону дзейнасці, у Мутнінскі лес, трапіў сапраўды нейкі важны начальнік і прадстаўнік нейкага высокага камандавання партызанскім рухам, з якім яго атрад дагэтуль не меў ніякай сувязі. І не ведаў, ці баяцца гэтай сустрэчы, ці радавацца ёй. На ўсялякі выпадак рашыў крыху напалохаць гэтых няпрошаных гасцей, хай, маўляў, ведаюць, хто тут гаспадар і каму прыналежыць першае месца.

— Ну, ты! — злосным шэптам прыкрыкнуў Макараў. — Пагасі жа ж свой ліхтарык!

Грышка Каравай паслухмяна выканаў загад. І раптам перад вачыма запала чорная заслона. Дзмітры Макараў нічога не бачыў, толькі пачуў Караваеў голас:

— Гэй там, хлопцы! Глядзіце, каб нашы госці не пагубіліся ў лесе. У штыкі іх бярыце! І марш у след за мною! Ды памятайце, каб ступаць адным следам, каб сцежкі ў зямлянку не пратаптаць!

Зямлянка размяшчалася за вёскай Мутнай, бліжэй да Буга, у гушчары, які мясцовыя людзі яшчэ і сёння называюць „Другой кулісай“, або „Другой дзялянкай“.

Вочы памалу звыкліся з начной цемрай, і Дзмітры Макараў пачаў смялей ставіць ногі. Пад ботамі хлюпала раскіслае балота, перамешанае з раннім, асеннім, яшчэ няўстойлівым снегам. Хацелася яму закурыць, але Дзмітры Макараў рашыў, аднак, што лепш не трывожыць свайго праваднікa. Чорт ведае чаго ад яго можна спадзявацца! Што гэта за чалавек? Які з яго камандзір? У які атрад я папаў? — разважаў даўнейшы чэкіст, не надта дбаючы пра тое, каб сваімі салдацкімі ботамі пападаць у Караваевы сляды.

І мне таксама хацелася як мага больш даведацца пра гэтага чалавека, пра Грышку Каравая. Ужо даўней, калі яшчэ я займаўся лёсам надбужных дотаў ды іх абаронцаў, даводзілася мне чуць пра нейкага Каравая, які партызаніў у гэтых старонках. Ведаў я, што выводзіцца ён недзе з-пад Чаромхі. Аб гэтым гаварыў мне таксама і Дзмітры Матвеевіч Макараў, калі расказваў аб разгроме станцыі Чаромха.

А на гэтай станцыі ад першых пасляваенных гадоў жыве добры мой сябар, аднавясковец і далёкі сваяк Іван Грыцюк з жонкай Валянцінай. Абое яны выводзіліся з Вулькі Нурэцкай і ў час акупацыі, аб чым усе ведаюць, Іван трымаў цесную сувязь з партызанамі. Аб гэтым я ўжо крыху пісаў даўней, калі расказваў аб пакутніцкім лёсе маёй роднай вёскі. Тады, аднак, Іван Грыцюк чамусьці мне нічога не гаварыў пра гэтага Каравая. Рашыў я наведаць яго паў-



 

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Але Сярожка зусім не супакоіўся. Ён увесь час хадзіў насуплены і думаў, што тут штосьці не так. А потым нехта дадумаўся і здагадаўся, што Сярожку перамагла не Маша, а Міша, пераапрануты ў Машу.

Таму ў першы ж дзень, калі Маша адна выйшла на двор (у Мішы ў гэты дзень балела горла, і мама не дазволіла яму выходзіць), Сярожка падышоў да Машы з нейкім хлапчуком, які быў вышэйшы за яго на паўгалавы, і сказаў:

— Дык табе, кажаш, хлапчукоўскую сілу Дзед Мароз падарыў?

— Ну, падарыў. А табе што да таго? — адказала Маша.

— Дзедам Марозам у нас заўсёды яго бацька. — І Сярожка паказаў у бок незнаёмага хлапчука. — Ён падарункі прыносіць дзецям. А падарункі ён бачыў. — Сярожка кіўнуў у бок незнаёмага хлапчука. — У іх ніякай хлапчукоўскай сілы не было.

— Не было, — пацвердзіў хлапчук. — Цукеркі былі, шакаладкі былі, пячэнне было, а хлапчукоўскай сілы не было.

Маша нахмурыла бровы і раптам спытала:

— А твой тата ўмее сняжынкі рабіць? Або марозы на вокнах маляваць?

— Не ўмее, — падумаўшы, адказаў незнаёмы хлапчук.

— Ну бачыш, — уцешылася Маша, — твой тата не сапраўдны Дзед Мароз, які ўмее сняжынкі рабіць і марозныя ўзоры на вокнах маляваць.

— Ты нам не дуры галавы пра ўзоры ды пра сняжынкі, — сказаў Сярожка. — Гэта вы з Мішам пераадзеліся. Ён і быў тваёй хлапчукоўскай сілай.

В. Мядзведзеў

### ХЛАПЧУКОЎСКАЯ СІЛА

**Пачатак у папярэднім нумары**

Маша разгубілася ад нечаканасці. „Няўжо падслухалі або здагадаліся?“ — падумала яна.

— Мы правяралі, — сказаў Сярожка, — твой брат Мішка сапраўды хворы, за цябе са мной ён змагацца не зможа!

Наогул Маша чамусьці не толькі не спалохалася Сярожкі, але нават уцешылася яго словам. Ёй увесь гэты час здавалася, што ў яе ёсць „хлапчукоўская сіла“.

Ды яшчэ Кася гэтымі днямі ёй сказала, што ёй сказалі, што гэта зусім не Маша перамагла Сярожку, а пераапрануты Міша. І вось такі выпадак. Маша вырашыла: няхай будзе што будзе, сама перамагу Сярожку! І пачала рашуча скідаць футэрка.

А хворы ангінай Міша ўсю гэтую сцэну бачыў праз акно. Ён не чуў, аб чым гаварылі Сярожка з Машай, але зразумеў, па Сярожкавай міне. Убачыўшы, што сястра скідае футра, ён, нягледзячы на забарону і высокую тэмпературу, накінуў паліто і выскачыў на двор. Але калі ён прыбег, Маша ўжо сядзела верхам на Сярожку, а плечы яго былі прыціснуты да снегу, хоць ён з усяе сілы стараўся вырвацца.

— Другі раз дзяўчыне не даў рады! — засмяяўся задаволены Міша. — Мала кашы еў!

І пакуль Міша памагаў Машы апрануцца, яны чулі, як за дрэвам пераругваліся Сярожка з сябруком.

— Гэта ты казаў, што яны пераадзеліся!

— Я? — крычаў даўганогі хлапчук. — Гэта ты першы сказаў!

— Не, ты!

— Не, ты!

Міша з Машай ужо накіраваліся да сваёй хаты, а Сярожка з сябруком усё яшчэ сварыліся паміж сабою.



Два Андрэйкі з Грыгораўцаў — Фота М. Гайдука.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Рыгор Барадулін

### ЯК СТАЎ ЗАЯЦ ДАЎГАВУХІ

**Абганяе ўласны цень,**
**Скача зайчык праз асіннік.**
**Сёння ж незвычайны дзень,**
**Сёння зайка —**
**Імяніннік!**

**На стале ўсялякіх страў,**
**Густа,**
**Кожнаму па густу.**
**Піражкі з грыбоў**
**Ды з траў.**
**І вядома, што —**
**Капуста!**

**Госці ў зборы ўсе даўно.**
**Тут сябры,**
**Радня,**
**Суседзі.**
**Ды мядзведзя**
**Не відно.**
**Госць галоўны, ўрэшце, едзе!**

**Ледзь аддыхаўся мядзведзь:**
**— Цяжка мне**
**Паўсюль паспець...**
**Першы**
**Пацягнуць я мушу**
**Імяніннікa за вушы!**

**(Працяг на стар. 10)**

Рыгор Мароз

### КУРАПАТКІ

Ну і зіма! Халадэча! Як на Сібіры. Дзедаў кажух аброс інеем. А ён чагосьці ўсміхаецца і кажа:

— Унучак, адгадай, што я прынёс? — і асцярожна адпінае кажух ды нешта выймае з-за пазухі. — Не адгадаеш!

— Што гэта? Курапаткі? Сапраўды, яны. Толькі нежывыя, дзеду? — грымасна скрывіўся малы.

— Ажывуць, ажывуць. Няхай цяпло пачуюць. Цяпер ляжаць спакойна, не варушацца. Вось прымарозіла! — Дзедка паглядзеў на курапатак і прадаўжаў. — Зіма дык зіма. А такія летам дзікуны! Падыйсці не дадуцца. Ад чалавека ўцякаюць. Зрываюцца і ляцяць, нягледзячы куды. Гатовы і ў агонь. А бач, мароз зрабіў сваё. Каб не чалавек, прапалі б. Яшчэ крыху і ўсё.

Унучак асцярожна, баючыся пакрыўдзіць, пяшчотна дакрануўся да спакойных птушачак.

А тым часам кот, што спаў на печы, прачнуўся. Пацягнуўся. Стаіць дугою і вачам не верыць. Раптам як скочыць! Аж курапатак подмухам разнесла.

— Ах ты гіцаль! Абібок! Печух пракляты! — Знерваваўся дзед. — Мяса захацеў! Палявога! Без працы! Ану, на двор! — Адчыніў дзед дзверы, тупнуў нагою. Ката як вымела. — У клуні тваё мяса! А як не хочацца, гультай, дык сядзі пад дзвярыма і мерзні.

Бабка пашкадавала ката.

— Яму ж таксама холадна! Чуеш, як просіць. Ён больш не будзе. Адчыні, Алічак, адчыні. На печ яго загані. Няхай там сядзіць.

Коцік як бы ведаў, што гаворка аб ім. Ускочыў на печку і паглядае адным вокам. Толькі аблізваецца. А дзед далей гаворыць:

— Іду і бачу... Што гэта такое? Каменьчыкі на снезе. Бліжэй падыходжу, а гэта яны. І не ўцякаюць. Падыходжу — нічога. Сядзяць. Ой, курапаткі, курапаткі. Цяжка прыйшлося вам! Пазбіраў я іх за пазуху і дадому. Шэсць штук. Гэта тыя, што летам бегалі. А тут пачулі цяпло, заварушыліся. Ну, як думаеш, мой разумнічак, выратуем іх?

— Выратуем, дзедку, выратуем! — махае малы галавой. — Да вясны рукой падаць.

— І паслед у бочцы ёсць. Так што, ведайце, дурненькія. Не заўсёды чалавек — ваш вораг. Праўда, ёсць такія, што руку на вас падымаюць. А які з вас наедак? І аблізацца няма чым. Так што вам зіма не страшна, — гаварыў дзед. А яны, пачуўшы цяпло, збіліся ў кучку і стаяць. — А летам, калі дажывем, адплаціце нам.

— Хі-хі-хі, — зарагатаў малы. — Дзеду, не жартуй. Адплацяць! Цікавы, чым? А грошы яны маюць?

— Вам толькі грошы ў галаве. Малы, а ўжо грошы і грошы. От, час настаў. Ну як не адплацяць, дык адпрацуюць.

— Чым адпрацуюць? Пазурамі, дзюбамі?

— А ведай, малы. Толькі пазурамі і дзюбамі. А чаго яны па бульбянішчы ходзяць? Стонку шукаюць. Вось і адпрацуюць.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**
**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### ПАЛЬЦЫ

— Ты, таўстун **Вялікі**,
Маўчун без'языкі,
Зверху ўніз ківаешся,
Сам сабе ўсміхаешся.

А ты, **Указальны**,
Хлопец паказальны.
Ты, **Сярэдні**, пасярэдзінцы
З **Безыменным** каля **Мезенца**.

Безыменны, Безыменны,
Мой памочнік незаменны,
У цябе спытаю я:
Дзе ты дзеў сваё імя?

— Ат, — прамовіў
Безыменчык, —
Што табе мне адказаць?
Я не плачу і не енчу,
Што імя забылі даць.

А ты, хлопчык Мезенны,
Ты адкуль прывезены:
З мезені, з Барозава,
З Мазыра ці з Грозава?

Узлаваўся Мезенец:
— Я не госць, не бежанец.
Родны сын я сваёй маці,
Самы спрытны у падхваце.
Мы браты ў адной сямейцы,
Усе выдатныя ўмельцы.

**Васіль Вітка**

*1. Назавіце пальцы.*
*2. Якімі пальцамі трымаем аловак або бярэм дробку солі ці мукі?*
*3. Якімі пальцамі перагортваем старонкі кнігі ці часопіса?*
*4. Якім пальцам падпіраецца далонь?*
*5. Прачытайце. Прыдумайце загаловак.*

Бацька вярнуўся з работы і спытаў у сына:
— Хто гэта прыбраў на панадворку?
Сын адказаў:
— Мне дапамаглі дзесяць маленькіх сяброў.
Маці вярнулася з поля і спытала:
— Хто наскроб бульбы на абед?
Сын адказаў:
— Мне дапамаглі дзесяць маленькіх сяброў.
— Дзе ж яны, твае дзесяць маленькіх сяброў? — спыталіся бацька і маці.
— Глядзіце! Вось яны! — Хлопчык падняў рукі.

*6. Прачытайце словы. Звярніце ўвагу на о, э, якія стаяць не пад націскам.*

Тэатр, ордэн, цэмент, трыо, цэнтральны, Токіо, дэталёва, тэлеграф.

**У многіх словах, якія прыйшлі ў беларускую мову з іншых моваў, галосныя о, э пішам не пад націскам: тэрмін — тэрміны, трэнер — трэніравацца, тэлевізар.**

### ДЗВЕ БУДАЧКІ

Дзядуля-сусед падарыў Міхасю і Васю па шчаняці. Ён сказаў сябрукам:
— Даглядайце іх добра, не крыўдзьце! А калі падрастуць, пабудуйце ім будачкі.
Праз нейкі час дзядуля прыйшоў паглядзець, як жывуць у хлопчыкаў шчаняты. Будачка, якую зрабіў Міхась, яму не спадабалася: крывабокая, негабляваная.
— Няўжо лепшай зрабіць не мог? — запытаў дзядуля.
— Зрабіў бы, але мне шчаня перашкаджала.
— Як жа яно табе перашкаджала?
— Бегала навокал і брахала! — сказаў Міхась.
Пайшоў дзядуля да Васі.
— О, гэтая будачка мне падабаецца! — пахваліў ён хлопчыка. — Роўненькая, гладзенькая, нават памаляваная. Сам зрабіў?
— Ды не, можна сказаць, удваіх, — усміхнуўся Вася. — Мне шчаня памагала.
— Як жа яно табе памагала?
— Бегала навокал і брахала!

**Мікола Калеснікаў**

*1. Ці на самай справе шчаняты былі прычынай таго, што Міхась зрабіў брыдкую, а Вася прыгожую будку? Падумайце і адкажыце.*
*2. Прачытайце апавяданне з падзелам на ролі. Папярэдне вызначце, якія радкі хто павінен чытаць.*

**(Працяг са стар. 9)**

## ЯК СТАЎ ЗАЯЦ ДАЎГАВУХІ

**Лапаю ўхапіў як след —
Зайку стаў
Нямілы свет.**

**Жартаваць мядзведзь ахвочы,
Зычыць,
Каб вялікі рос.
На ілбе у зайкі вочы.
Ні да смеху,
Ні да слёз...**

**Заяц,
Знаеце вы самі,
Зараз з доўгімі вушамі.
З той пары
Ўвесь род зайчыны
Не святкуе імяніны.**

## Пазнаёмімся

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, с. Рылёво. Чирикиной Ирине. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 6, кв. 45. Марына Самусенка. 3 клас.

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Прамая, 6, кв. 2. Таня Алімава. 6 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2. пер. Р. Люксембург, 8, кв. 35. Іра Клімантовіч. 7 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 62. Саша Мальчэўскі. 4 клас.

## Вучнёўская творчасць

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Мы, вучні трэцяга „б" класа ў Орлі, усе вывучаем беларускую мову. На ўроках з настаўніцай Аннай Шыманскай мы чытаем „Ніву" і „Зорку". Чытаем вершы нашых сяброў. Аднойчы і мы вырашылі скласці вершы аб зіме. Найпрыгажэйшыя з іх высылаем да Цябе. Хочам, каб яны былі ў „Зорцы".

**З паважаннем, вучні 3 „б" класа. Орля.**

### ЗІМА

Прыйшла зіма,
Пакрыла белым снегам поле,
Лес, сад і ўсё наваколле.
Дрэвы спяць у белых шатах,
А людзі сядзяць
У цёплых хатах.
Толькі дзеці
Гуляюць на двары,
Поўна ўжо іх на гары.
Аж тут прыйшоў і сам
Мароз —
Цап за вушы,
Цап за нос!

**Аліна Каляда**

### ВОСЕНЬ

Была восень — было цёпла,
Сонца свяціла на небе.
Прыйшла зіма —
Ёсць снег і мароз,
Але нам вясёла.

**Гражына Добаш**

### ЗІМА

Зіма халодная наступіла.
Пушысты снег ляціць з нябес.
Марозам рэкі закавала,
Сумна шуміць цёмны лес.

**Мар'юш Бобэр**

### ПЕРШЫ СНЕГ

Колькі радасці і шуму
Каля нашай школы!
Першы снег упаў сягоння —
Усе дзеці вясёлы.

**Мар'юш Куна**

### НАДЫХОД ЗІМЫ

Ужо прыйшла да нас зіма,
Снег прыкрыў лясы і поле,
Закаваў мароз зямлю:
Дзецям радасць і раздолле.

Бягуць дзеці на канькі,
Санкі мчацца з горкі.
Хоць мароз шчыпле за нос,
Усё мацнейшы скрып палоз.

**Аня Главацкая**

## Вясёлы куточак

* * *

Юрку запыталі ў школе:
— Ці бачыў ты дзятла?
— Бачыў па тэлевізары.
— А калі разам з татам у лес ездзілі — не бачыў?
— Не, — уздыхнуў Юрка. — Мы у лес з сабою тэлевізара не бралі.

* * *

— Бабуля, што вы там робіце, калі з суседкамі сядзіце на лаўцы?
— Ат, нічога асаблівага, унучак, языкі чэшам.
— А мая бабуля не дазваляе ў рот грабеньчык браць!

* * *

Цётка пачаставала Алесю піражком. Алеся падышла да люстэрка і пачала есці.
—Чаму ты ясі перад люстэркам?
— Каб з'есці два піражкі адразу, — адказала Алеся.

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

*Пішуць да Цябе вучні пятага класа Пачатковай школы ў Пасынках. У нашым класе вучыцца 16 асоб. Беларускую мову вывучае сем дзяўчатак і восем хлопчыкаў. Урокі беларускай мовы вядзе ў нас настаўніца Валянціна Іванчук.*

*Мы любім чытаць „Зорку". Вельмі падабаюцца нам адгадванкі. Мы іх малюем і ўклейваем у сшыткі. Любім таксама чытаць „Вясёлы куточак".*

*Вучымся мы добра. Дарагая „Зорка"! Прыязджай да нас у госці. Мы вельмі чакаем.*

З прывітаннем, **вучні 5 класа, Пасынкі.**
(пятнаццаць подпісаў)

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы, вучні чацвертага „Б" класа Падставовай школы № 3 ў Бельску Падляшскім, вырашылі напісаць Табе пісьмо.*

*У нашай школе 757 вучняў. Дырэктарам нашай школы з'яўляецца мгр Васіль Ляшчынскі, а беларускую мову навучае ў нас Сцяпан Бурыла.*

*У нашай школе тры чацвертыя класы. Усе вучні ў нашым класе выпісваюць „Ніву" і карыстаюцца ёю на ўроках. Наша школа знаходзіцца на вуліцы Каперніка 4. Школа мае тры паверхі. У гэтым годзе закончылі будаваць новую школу, таму што ў старой школе ўсе класы не маглі памясціцца. Яшчэ хочуць бацькі будаваць нам гімнастычную залу.*

*У нашым горадзе ёсць толькі адна школа з беларускай мовай навучання. І мы хочам быць не найгоршымі вучнямі ў мястэчку.*

**Вучні 4 „Б" класа, Бельск**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Нядаўна ў нас адбыліся „Андрэйкі", на якія сабраўся наш клас. Былі з намі дзве настаўніцы. Мы падрыхтавалі конкурсы і варожбы. Прынеслі магнітафон. Першым быў конкурс танца, які не вельмі ўдаўся. Потым былі конкурсы прыгажосці і прычосак. У конкурсе прыгажосці першае месца заняла Паўля Евец, а ў конкурсе прычэсвання першае месца занялі Ася Гродская і Марэк Шурпік. Калі мы варажылі, у пакоі было цёмнавата. Гарэлі толькі дзве свечкі. Варожбы ўдаліся нам вельмі добра.*

*Потым мы танцавалі. І так прыгожа правялі гэты вечар.*

З паважаннем,
**вучні 4 „Ц" класа, Бельск**

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




**У пустыя квадрацікі ўпішы лікі ад 1 да 9 так, каб сума ў кожным радзе склала 15.**



**Адрас рэдакцыі „Зорка" 15-959 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### АЙСБЕРГ

**(З рэпертуару Алы Пугачовай)**
Словы Лідзіі Казловай
Музыка Ігара Нікалаева

Ледяной горою айсберг
Из тумана вырастает,
И несёт его теченье
По бескрайним по морям.
Хорошо тому, кто знает,
Как опасен в океане
Айсберг встречным кораблям.

Припев:

А я про всё на свете
С тобою забываю,
А я в любовь, как в море,
Бросаюсь с головой,
А ты — такой холодный,
Как айсберг в океане,
И все твои печали —
Под чёрною водой.

Кто ты — горе или радость.
То замёрзнешь, то растаешь!
Кто ты — ласковое солнце
Или мёртвый белый снег?
Я понять тебя пытаюсь,
Кто же ты на самом деле,
Кто же ты на самом деле —
Айсберг или человек?!

Припев.

Ты уйди с моей дороги
Или стань моей судьбою
Протяни навстречу руки
И поверить помоги,
Что любовь моя сумеет
Примирить меня с тобою.
И растает этот айсберг —
Это сердце без любви.

Припев.



— Яшчэ два раўнды — і хопіць.




З чаго смяюцца суседзі.



— Тут цябе пытае нейкая жанчына!

### ПАРАЗУМЕЛІСЯ

У перапоўненым кінатэатры глядач, што сядзіць спераду, цікавіцца ў суседа за спіною:

— Я вам не замінаю?

— Зусім наадварот!

— Як гэта наадварот?

— Яшчэ і як замінаеце!

### НЕ ТЫЯ ВАРОТЫ...

— Вось там Валерка каля варот ужо з паўгадзіны свішча! — кажа Андрэйка старшай сястры.

— Хай свішча, я да яго не выйду!

— Дык ён каля Лільчыных варот...

— Ды ты што?! Вось я яму зараз свісну!

### ПАМЫЛКА

У кабінет да псіхіятра заходзіць мужчына.

— Добры дзень, пан доктар! Вы мяне памятаеце. Я ваш былы пацыент. Вось прыйшоў запрасіць вас на сваё вяселле.

— Ах, які ж я ёлупень! — схапіўся доктар за галаву. — Я ж думаў, што вылечыў яго!

### СОН У РУКУ

— Ты сапраўды верыш у сны?

— Вядома. З таго часу, як адзін з іх збыўся...

— Які ж гэта?

— Бачыш... Нейк мне прыснілася, быццам я быў моцна п'яны і мяне затрымала міліцыя... А раніцой выявілася, што я сапраўды там пабываў.



**Выходзячы ў людзі, намяў ім бокі.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Капітан карабля паказвае пасажырам сваю рубку. Пасажырка пытае:

— А як вы кіравалі б караблём, калі б раптам згубіліся ўсе карты?

— Вельмі проста. Калі на гарызонце з'явіцца зямля, я пашлю аднаго з матросаў на бераг па сігарэты. Па іх назве я ўстанаўлю, у якую краіну мы прыплылі.

*

Два сабакі заглянулі на Новы год у дыскатэку.

— Калі б я так тузалася, — ківаючы галавою, гаворыць адзін другому, — дык гаспадар неадкладна паставіў бы мяне ў балею і вымыў антыблашыным шампунем!

*

— Чаму пад зіму птушкі ляцяць на поўдзень?

— Таму, што надта цяжка ісці туды пешкі.

### НЕПАСЛУХМЯНАЕ ДЗІЦЁ

У вагоне поўна пасажыраў. Уваходзіць кантралёр. Пакуль правярае білеты ў тых, што бліжэй да дзвярэй, у супрацьлеглым канцы вагона ўзнімаецца дзіцячы крык. Гэта жанчына ў акружэнні кількох хлапчукоў лупцуе найменшага. Той крычыць, аж заходзіцца.

Кантралёр да яе:

— За што б'еце дзіцё? Як вам не сорам?

— Хай яму будзе сорам! Дома не хоча есці, капрызіць, а тут узяло ды з'ела мой білет.

### З „Весніка Задрыповіі"

### ГЭТА ЦІКАВА

Цікавы выпадак здарыўся нядаўна ў магазіне № 14 гор. Навалявўска. Растваральная кава ў колькасці 5 тыс. бляшанак растварылася яшчэ на складзе.

### ЛЮБОЎ І РЭНТГЕНАЛОГІЯ

Здзіўленне ў калег выклікала нечаканае замужжа рэнтгенолага С. Празрыстай, якая выйшла замуж за пацыента. „І што яна ў ім такога знайшла?" — здзіўляліся супрацоўнікі.



— Я ж прасіў прынесці тапачкі.





## Курёзы

### ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

Не так даўно ў англійскім часопісе „Прайвіт ай" была змешчана заметка пра тое, як парушыў правілы дарожнага руху веласіпедыст Дж. Эвершолт — элементарна не паспеў пераскочыць вуліцу, як на светафоры загарэлася чырвонае святло. Дзяжурны паліцэйскі Плант выраšыў затрымаць яго. А каб людзі бачылі яго добрасумленную работу, ён затрымаў аж каля сарака чалавек прахожых, якія дапамаглі яму саўладаць з парушальнікам, што быццам аказвае яму, вартавому парадку, вялікае супраціўленне. Больш таго, справа гэтая была даведзена да судовага разбору, бо, як сцвярджаў паліцэйскі, Эвершолт не толькі не падпарадкаваўся яго камандзе спыніцца, а нават ухапіў паліцэйскага за плячо зубамі. З другога боку, Эвершолт усяляк адмаўляе гэтае абвінавачванне ў свой адрас, а каб у вачах публікі паьлічыць смехатворнасць сітуацыі, спасылаецца на той аргумент, што ён з'яўляецца наогул вегетарыянцам і мяса, тым больш мяса паліцэйскага, не ўжывае.




**Мала ўмець праігрываць, трэба яшчэ ведаць каму.**